ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 26 (125) 14 - 20 ліпеня 1995 г. Кошт 600 рублёў

ЧАЦЬВЁРТЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ" - ст. 2.

КАНФЛІКТ НА ПАДМУРКУ ЦАРКВЫ - ст. 3.

ДЗІРКА Ў ПЛОЦЕ, АЛЬБО МЯЖА НА ЗАМКУ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква

## ГРУНВАЛЬДЗКАЙ БІТВЕ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА

15 ліпеня ў Горадні адбудзецца сьвяткаваньне 585-х угодкаў перамогі пад Грунвальдам. У праграме ўрачыстасьці: набажэнства ў Каложскай царкве (10.00-12.00), імша ў Бернардынскім касьцёле (13.00-14.00), акадэмія і паседжаньне ў тэатры лялек (15.00-16.00), сьвяточнае шэсьце ад плошчы Тызенгауза да Старога замку (16.00-17.00), адкрыцьцё помніка Вітаўту Вялікаму (17.00-18.00), сьвяточны канцэрт ля Новага замку (18.00-20.00).

Мерапрыемства праводзіцца па ініцыятыве дэмакратычных арганізацый Горадні. Да ўдзелу ў ім запрошаны прадстаўнікі ўлады. Запрашэньні таксама накіраваны ў Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Горадні і Пасольства Летувіскай Рэспублікі на Беларусі.

Ул.інф.

## НА ВОІНСКУЮ СЛУЖБУ ПА ЭКСТЭРЫТАРЫЯЛЬНАМУ ПРЫНЦЫПУ

Па экстэрытарыяльнаму прынцыпу будуць праходзіць тэрміновую службу гарадзенскія юнакі, прызваныя сёлета ў памежныя войскі.

Намесьнік каманьдзіра Гарадзенскага памежнага атраду спадар Хведар Паўловіч пракаментаваў гэта так: "У сувязі з тым, што падчас праходжаньня вайсковай службы на мяжы мясцовы юнак можа мець дачыненьні са знаёмымі і роднымі, карысьней для яго самога будзе служыць далей ад дому".

Па непацьверджанай інфармацыі, большасьць тых, хто будзе прызваны ў памежнікі, адправіцца на службу ў Берасьцейскую вобласьць.

Г.А.

## РЭПАРЦЁРЫ ЖЫВЫЯ, ПАЦЯРПЕЎ ТОЛЬКІ «МАСКВІЧ»

Наўмысны наезд на брыгаду тэлерэпарцёраў гарадзенскай абласной тэлерадыёкампаніі, якая рабіла здымкі непадалёку вёскі Путна, зьдзейсьніў трактарыст калгаса "Кастрычнік" Гарадзенскага раёну.

У аб'ектыў тэлекамеры апаратара Георга Гулеўскага трапіў трактар "Кіравец", які па неахайнасьці кіроўцы заехаў у гідрамеліярацыйны канал. Здымкі моцна разьюшылі нядбайнага трактарыста. Выцягнуўшы магутную тэхніку з каналу, выціскаючы з рухавіка ўсю магутнасьць, ён накіраваў свой "Кіравец" на студыйны "Масквіч", у якім сядзелі тэлерэпарцёр і вадзіцель. На шчасьце апошніх, яны пасьпелі выскачыць з легкавіка, які пад коламі трактара ў момант перапрануўся ў злом.

Па факту гэтага злачынства кіраўніцтвам тэлерадыёстудыі пададзена заява ў Гарадзенскі РАУС. Вядзецца сьледзтва.

Г.ГЕРАСІМОВІЧ

## НЕ ХАПАЕ 500 МІЛЬЁНАЎ

Відаць, ня хутка здолее прыняць пацыентаў першая гаспадарча-разьліковая стаматалагічная паліклініка ў Горадні.

Для таго, каб давесьці выдзеленае памяшканьне да ладу, па словах галоўнага лекара - спадара І. Утліка - на рамонт неабходна яшчэ 500 мільёнаў бюджэтных сродкаў.

Г.Г.

## ЕДУЦЬ НА АДПАЧЫНАК І ДА НАС

Шаснаццаць дзетак з Нямецкага горада Грэвесьмюлена прыехалі адпачыць на Лідчыну. Іх гасьцінна прыняў дзяцячы лагер адпачынку Лідзкага завода электравырабаў "Электрык". Нямецкім дзяцям даспадобы прыйшлася маляўнічая беларуская прырода, прыязнасьць і добразычлівасьць.

У адказ грэвесьмюленцы мяркуюць запрасіць выхаванцаў мясцовага дзіцячага дома на адпачынак у Нямеччыну. Застаецца спадзявацца, што і нашым дзецям будзе ў гасьцях ня горш.

Язэп АБУХОВІЧ.

## ДАДЗІМ КОЖНАМУ АЎТОБУСУ ПА КАНДУКТАРУ!

У Пінскім аўтапарку вырашылі аднавіць на кожным маршрутным аўтобусе пасаду кандуктараў. Ёсьць спадзеўка, што такі крок дазволіць значна скараціць колькасьць "зайцоў", якіх, трэба прызнаць, апошнім часам разьвялося даволі шмат, а таксама крыху зьменшыць праблему беспрацоўя.

Любамір МАКДУСЬ

## ЗЬМЕНЫ Ў КІРАЎНІЦТВЕ БЗВ

Выканкам Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў разгледзеў арганізацыйнае пытаньне. У сувязі з абраньнем старшыні БЗВ Міколы Статкевіча старшынёй Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, ён папрасіў выканкам даць яму дазвол прыпыніць дзейнасьць на пасадзе старшыні БЗВ. Выканкам просьбу задаволіў. Выконваць абавязкі старшыні БЗВ да трэцяга зьезду БЗВ будзе Алесь Станкевіч. Гэта "дэ юрэ", "дэ-факто" - Статкевіч застаўся ў складзе выканкаму і працягвае неафіцыйна кіраваць БЗВ.

Усяслаў ВОЙНІЧ.

## КАЛІ АДНЫМ ДОБРА, ІНШЫЯ АЖ ШАЛЕЮЦЬ

Першая прыватная фотастудыя адчынілася ў Кобрыні па вуліцы Пушкіна. Фатограф пераабсталяваў для гэтага сваю ўласную кватэру. Аднак некаторыя зайздросьнікі, якім чужая добрая справа горай за ўсё астатняе, пааббівалі яму сарваць усе здымкі.

Урэшце, супакоіліся яны толькі пасьля таго, як навялі даведкі ў гарвыканкаме ды высьветлілі, што "усё законна".

ЯГОРЫК

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ ПА ЗАПРАШЭНЬНЮ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Па запрашэньні культурна-асьветніцкага фонду "Бацькаўшчына" і пры садзеяньні фальклёрнага гурта "Гарадніца" Гарадзеншчыну наведалі амерыканцы беларускага паходжаньня. Яны пабывалі ў Навагрудку, Жыровічах, Слоніме, Лідзе.**

Падчас знаходжаньня ў Горадні амерыканскія беларусы наведалі Новы і Стары замкі, Каложскую царкву, мастацкую галерэю "У майстра", дзе набылі шмат вырабаў беларускіх майстроў, ажыцьцявілі экскурсію па цэнтру Горадні, а на беразе Нёмана адсьвяткавалі Купальле.



Завіталі яны і ў рэдакцыю нашай газеты, дзе пазнаёміліся з супрацоўнікамі "Пагоні".

А.ДУК

## ЗАДАЧЫ АКРЭСЬЛЕНЫ - ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ

**У Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася нарада-семінар старшынь раённых саветаў Гарадзенскай вобласьці. На ёй абмяркоўваліся вынікі выбараў у прадстаўнічыя органы ўлады і іх задачы на бліжэйшы час.**

Старшыня вабласнога Савету дэпутатаў С.Домаш азнаёміў прысутных з вынікамі выбараў і арганізацыйных сесій райсаветаў, на якіх абрана 17 старшынь, з іх 12 чалавек - паўторна.

Загадчык арганізацыйна-прававога аддзела І.Сухадола зьвярнуў увагу на тое, што знаходзіцца ў кампетэнцыі Саветаў, якімі паўнамоцтвамі яны валодаюць і якія задачы стаяць перад імі.

С.Домаш таксама спыніўся на першачарговых захадах, якія павінны рабіць раённыя Саветы і іх старшыні. У прыватнасьці, вырашаць пытаньні са службовымі кабінетамі, транспартам, каб лепей трымаць сувязь з выбаршчыкамі, а таксама пасялковымі і сельскімі Саветамі, абавязкова сфармаваць свае апараты і весьці прыём грамадзян.

Асаблівую ўвагу ён зьвярнуў на неабходнасьць вядзеньня справаводзтва і сесій на беларускай мове і вывучэньня яе работнікамі Саветаў: "Мы сёньня зьяўляемся прадстаўнікамі дзяржаўнай улады, а дзяржава ў нас сёньня - Беларусь. І руская мова ўведзена не для таго, каб мы на яе кідаліся, зараз усе пераключыліся, а для таго, каб лягчэй было жыць рускім, ці рускамоўнаму насельніцтву, а гэта яшчэ не азначае, што мы павінны забыцца пра сваю родную, беларускую мову. Дзьве дзяржаўныя мовы, калі ў нас уведзены, то яны абавязковыя для дзяржаўных чыноўнікаў, і яны павінны ведаць іх дасканала". Тым больш што раней ці пазьней ім, па словах С.Домаша, давядзецца здаваць экзамен па беларускай мове.

А.ДУБАЎ

## І СТАЛІЦА МАШЫНАЛЬНА ПЕРАНОСІЦЦА У НЬЮ-ВАСЮКІ

**Тых, хто глядзеў тэлевізійны выступ А.Лукашэнкі ў першыя ўгодкі ягонага прэзідэнцтва, адразу зьдзівіла адна акалічнасьць. У якасьці слухачоў у яго службовым кабінэце прысутнічалі ўсяго чатыры журналісты, якім было дазволена задаць прэзідэнту некалькі пытаньняў.**

Быў і яшчэ адзін чалавек - малады грузін, які паведаміў пра сябе, што нарадзіўся на Беларусі і што ён - журналіст. Аднак пры гэтым не было названа, якія сродкі масавай інфармацыі ён прадстаўляе: беларускія, грузінскія, ці можа яшчэ якія. Аднак, тым ня менш, гэты чалавек зрабіў уступ да ўсёй перадачы, ён жа і падвёў яе вынікі. Самае цікавае, што менавіта яму прэзідэнт выказаў у канцы падзяку, нібыта гэты чалавек арганізаваў сустрэчу з прэзідэнтам. Дзіўна, вельмі дзіўна ўсё гэта...

Лукашэнка зноў наракаў на тое, што ў свой час разваліўся Савецкі Саюз і што была разбурана кадравая палітыка ЦК партыі, якую сёньня абавязкова трэба аднавіць. Маўляў, кадры па-ранейшаму вырашаюць усё. Аказваецца, што сёньня эфектыўнасьць улады на месцах раўна ўсяго 50 працэнтам, ня больш. Вось раней, пры райкамах, улада была жорсткая, зноў настальгічна зазначыў наш прэзідэнт. Атрымліваецца, што не задаволены ён сваёй хвалёнай вертыкальлю. А ўпачатку ж сказаў, што год назад народ паверыў яму, як сумленную каманду. Што датычыць парламанту, дык наконт яго тэлегледачы пачулі штосьці цьмянае. Накшталт: гэты вузел трэба расьсячы раз і назаўсёды.

Рэферэндум Лукашэнка чамусьці назваў перамогай у духоўнай сьферы. Хаця любому нармальнаму чалавеку зразумела, што гэта - нацыянальная ганьба. Ну, але трэба ж яму хоць адну перамогу мець на сваім рахунку, паколькі перад тым прэзідэнт прызнаўся, што за свой год аніводнай іншай перамогі не дасягнуў. А тое, што ў нас дагэтуль не страляюць, дык гэта хутчэй заслуга С.Шушкевіча з В.Кебічам, якія кіравалі краінай значна больш за Лукашэнку.

Таямнічы грузін падкінуў у канцы прэзідэнту пікантнае пытаньне адносна таго, ці не хацеў бы той зрабіць Менск сталіцай адноўленага Савецкага Саюзу... А.Лукашэнка яму вельмі за гэта дзякаваў. Карацей, глядзіш, сталіца раптам машынальна перанясецца ў Нью-Васюкі, як марыў некалі Астап Бэндэр.

У.СЬЦЕПАНЕНКА.

# ЧАЦЬВЁРТЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**Восьмага ліпеня з 10.00 да 23.30 у Менскім Доме літаратара прайшоў другі этап чацьвёртага зьезду Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".**

**Зьезд расчараваў "аб'ектыўных" аглядальнікаў, прадказальнікаў ды іншых "сацыёлагаў". Ніякага расколу, падзелу ці разлому не адбылося. Выбары старшыні Фронту паказалі бясспрэчную перавагу аўтарытэту Зянона Пазьняка. З 275 дэлегатаў за Пазьняка прагаласавала 224, за Юрыя Хадыку - 50, за Валерыя Грыцука - 1.**

**Абраны пяць намесьнікаў старшыні Фронту. Імі сталі Юры Хадыка, Вінцук Вячорка, Станіслаў Гусак, Лявон Баршчэўскі, Юры Беленькі.**

**Зьезд абраў 49 сяброў Сойму БНФ "Адраджэньне". Яшчэ 49 сяброў Сойму абяруць тэрыторыі. Пацьверджаны стратэгічны курс БНФ на нацыянальнае адраджэньне і абарону незалежнасьці Беларусі. Прыняты рэзалюцыі "Пра палітычнае становішча", "Аб выбарчым законе", "Аб рэферэндуме", "Пра неабходнасьць кансалідацыі дзеля абароны дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі", "Пра вайну ў Чачэніі (Ічкерыя), "Пра пагрозу дэмакратыі".**

**Панавала заклапочаная працоўная атмасьфера, але ніякага песімізму ці апатыі не было і знаку. Рэзкія і крытычныя выступы С.Антончыка і В.Анцулевіча не знайшлі значнай падтрымкі ў зале. "Ня трэба заканчваць акадэміі, як кажа Аляксандр Рыгоравіч, каб пасьля пройгрышу на выбарах сказаць, што лепш было б у іх ня ўдзельнічаць",- прыблізна такім быў рэзананс у залі на гэтыя выступы. Значна большую цікавасьць выклікалі прамовы, у якіх гаварылася пра тое, што рабіць далей.**

**У гэты ж дзень адбыўся і другі зьезд Партыі БНФ. Старшынёй партыі абраны Зянон Пазьняк.**

**Увазе чытачоў прапануем рэзалюцыі, ухваленыя зьездам.**

## ПРА ПАГРОЗУ ДЭМАКРАТЫІ

Ланцуг падзеяў, які пачаўся ў 1992 г. з незаконнай забароны ініцыяванага Народным Фронтам рэферэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, прывёў да ўсталяваньня ў нашай дзяржаве аўтарытарнага рэжыму на чале з прэзідэнтам. Ад першых месяцаў знаходжаньня пры ўладзе гэты рэжым, не прапануючы рэальнай праграмы выйсьця з эканамічнага крызісу, сканцэнтраваў увагу на падаўленьні асноўных дэмакратычных свабодаў грамадзянаў, стварэньні перашкодаў правядзеньню свободных выбараў у новы Вярхоўны Савет і мясцовыя саветы.

Пры гэтым згодніцкую і безадказную пазіцыю заняла бальшасьць Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня. Шматлікія парушэньні законаў пастаянна дапускае ня толькі выканаўчая, але і іншыя галіны ўлады. Гэта вядзе да ператварэньня Беларусі ў правінцыйную дыктатуру, робіць немагчымым стварэньне прававой дзяржавы.

Лавінападобны працэс парушэньняў Канстытуцыі і законаў Беларусі павінен быць спынены. Інакш узрастае і становіцца цалкам рэальнаю пагроза поўнага разбурэньня дзяржаўнага механізму. Зьезд Народнага Фронту лічыць, што ўсе галіны ўлады, усе адказныя палітычныя сілы павінны супольна выпрацаваць шляхі стаўленьня палітычнага жыцьця краіны на канстытуцыйнай аснове.

Гарантыяй дасягненьня гэтае мэты мусіць стаць дэманапалізацыя асноўных дзяржаўных сродкаў інфармацыі, безумоўнае выкананьне арт. 33 і 34 Канстытуцыі Беларусі і Закону "Аб друку і сродках масавай інфармацыі". Гэта, а таксама прыняцьцё новага, дэмакратычнага выбарчага закону дазволіць стварыць рэальныя ўмовы для правядзеньня свабодных дэмакратычных выбараў у новы вышэйшы заканадаўчы ворган краіны.

## ПРА НЕАБХОДНАСЬЦЬ КАНСАЛІДАЦЫІ ДЗЕЛЯ АБАРОНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Дзейнасьць прэзідэнта і яго адміністрацыі стварыла рэальную небясьпеку ўключэньня Беларусі ў склад Расеі. Становішча патрабуе неадкладнай кансалідацыі сілаў дзеля абароны дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Вакол ідэі беларускай дзяржаўнасьці могуць раўнапраўна згуртавацца палітычныя сілы рознай арыентацыі, а таксама грамадзкія і культурныя аб'яднаньні, прафесійныя саюзы, саюзы прадпрымальнікаў, арганізацыі нацыянальных меншасьцяў, сьвецкія канфесійныя згуртаваньні і г.д.

Мы разумеем, што пэўныя ідэйныя разыходжаньні, асаблівасьці палітычных біяграфіяў і асабістыя амбіцыі лідараў перашкаджалі партыям, у тым ліку і БНФ, дасягнуць адзінства дзейнасьці раней. Усьведамляючы сваю адказнасьць за лёс краіны, Беларускі Народны Фронт гатовы ўдзельнічаць сам і заклікае да ўдзелу ў кансалідацыйным працэсе іншых на роўных для ўсіх умовах.

Адзінства дзяржаўных сілаў можа быць перадусім дасягнута ў падрыхтоўцы да восеньскіх выбараў, у стварэньні незалежнай інфармацыйнай прасторы і ў выпрацоўцы канцэпцыі вываду краіны з цяжкага эканамічнага і палітычнага крызісу, у якім яна апынулася з віны некампетэнтнага кіраўніцтва.

## ПРА ВАЙНУ Ў ЧАЧЭНІІ (ІЧКЕРЫІ)

Больш як паўгода доўжыцца крывавая трагедыя чачэнскага народу, якая набыла маштабы генацыду. Вайна ў Чачэніі ня толькі прывяла да вялікіх чалавечых ахвяраў і разбурыла эканамічны патэнцыял гэтай краіны, але і паставіла пад пытаньне працэс дэмакратызацыі ў Расейскай Федэрацыі. Яна павялічыла пагрозу буйнамаштабных канфліктаў, якія рэальна могуць распаўсюджвацца на тэрыторыю бліжэйшых суседзяў Расеі. У першую чаргу вынікі чачэнскай авантуры адчуе на сабе Беларусь, шчыльна зьвязаная з Расеяй шэрагам міждзяржаўных пагадненьняў і не абароненая ад пранікненьня непажаданых працэсаў з усходу ніякай мяжой.

Гэтая вайна фармальна вынікае з супярэчнасьці двух агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права - прынцыпу непарушнасьці межаў і права народаў на самавызначэньне. Аднак фактычнаю прычынаю чачэнскай вайны стала імкненьне вялікадзяржаўніцкіх сілаў у расейскім кіраўніцтве перашкодзіць гістарычна непазьбежнаму развалу савецкай імперыі. Нездарма ў Канстытуцыі Расейскай Федэрацыі (за якую народ Чачні не галасаваў) адсутнічае дэмакратычны механізм рэалізацыі права рэспублік на выхад са складу федэрацыі. Прыклад Чачэніі - яскравае сьведчаньне таго, што чакае народы ў складзе РФ, якія асьмеляцца заявіць пра свае правы, і папярэджаньне тым, хто жадаў бы зацягнуць Беларусь у федэрацыйную сувязь з Расеяй.

Мы пратэстуем супраць выкарыстаньня вайсковай сілы ў Чачэніі, супраць працягу агрэсіўнай імперскай палітыкі. Мы заклікаем расейскае кіраўніцтва стварыць дэмакратычны праўны механізм выйсьця з ганебнай для вялікай краіны палітычнай сітуацыі і спыненьня кровапраліцьця, зыходзячы з прынцыпаў гуманізму, справядлівасьці, пашаны правоў чалавека і народу.

## АБ ВЫБАРЧЫМ ЗАКОНЕ

Выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савету, якія прайшлі 14 і 28 траўня, не прывялі да ўтварэньня вышэйшага органа заканадаўчай улады Рэспублікі Беларусь. Мажарытарная выбарчая сістэма, недэмакратычныя і супярэчлівыя нормы і абмежаваньні, якія закладзены ў закон "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь", не дазволілі выбраць дэпутатаў па сто сорак адной выбарчай акрузе - большасьці ад ўсіх выбарчых акругаў Беларусі. Створаны яшчэ ў часы БССР, нязначна падпраўлены цяперашнім Вярхоўным Саветам, выбарчы закон аддае практычна ўсю арганізацыю і рэгламентаваньне выбарчага працэсу ў рукі выканаўчых структур, якія не зацікаўлены ў існаваньні моцнай прадстаўнічай улады. Дзякуючы гэтаму, выбары адбыліся амаль выключна ў акругах, дзе пераважае вясковае насельніцтва, вельмі залежнае ад мясцовай улады.

Выбарчы закон ня ўлічвае магчымасьць абсентэізму - сьвядомага адмаўленьня грамадзян ад удзелу ў галасаваньні. Існуе рэальная небясьпека, што паводле гэтага выбарчага закона выбары на Беларусі не адбудуцца ніколі.

БНФ "Адраджэньне" нагадвае, што ў 1992 годзе ім быў распрацаваны і вынесены на ўсенароднае галасаваньне праект закона аб выбарах, які гарантаваў стварэньне прафесійнага парламанту з прадстаўніцтвам, прапарцыйным палітычным сімпатыям грамадзян. Гэты закон прайшоў шырокую экспертызу сьпецыялістаў і быў прызнаны цалкам адпавядаючым усім дэмакратычным нормам. Канцэпцыя гэтага Закона была пасьпяхова выкарыстана ў выбарчым заканадаўстве Літвы і Расеі. За правядзеньне выбараў па гэтым законе падпісаліся больш за 442 тысячы грамадзян Беларусі. Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" лічыць неабходным аднавіць намаганьні за прыняцьце гэтага закона.

## АБ РЭФЕРЭНДУМЕ

14 мая 1995 году кіруючым рэжымам на Беларусі быў праведзены рэферэндум, які зьняславіў нашу краіну і нашае грамазтва ў вачах цывілізаванага сьвету.

Вынікі яго сьведчаць, што асноўныя нацыянальныя каштоўнасьці - мова, гістарычная дзяржаўная сімволіка, дзяржаўная незалежнасьць і дэмакратычная сістэма ўлады - не зьяўляюцца каштоўнасьцямі для значнай часткі беларускага грамадзтва. Гэтыя каштоўнасьці сталі прадметам палітычнага маніпуляваньня кіраўніцтва краіны.

Рэальны стан сьвядомасьці людзей Беларусі, якія пакаленьнямі, жывучы ў таталітарным грамадзтве, цярпелі ад савецкай антынацыянальнай ідэалагічнай апрацоўкі, ня быў адпаведна ацэнены дэмакратычнымі сіламі краіны, у тым ліку Народным Фронтам. Яны не змаглі прадухіліць акт нацыянальнага самаганьбаваньня.

У многіх прадстаўнікоў беларускага грамадзтва вынікі рэферэндуму выклікалі стан разгубленасьці і расчараванасьці ў перспектывах нацыянальнага адраджэньня.

Беларускі Народны Фронт не падзяляе такіх настрояў і заяўляе наступнае:

Рэферэндум 14 мая праведзены з грубымі парушэньнямі дэмакратычных нормаў, законаў і Канстытуцыі Беларусі. Пытаньні, па якіх быў вымушаны галасаваць народ, забаронена выносіць на рэферэндум Законам аб усенародным галасаваньні (рэферэндуме) (арт.3). Не дазваляе рабіць гэтага і Канстытуцыя (арт.78,148).

Прэзідэнцкай уладай былі зманапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі, якія вялі аднабаковую прапаганду і агітацыю, дэзінфармавалі насельніцтва, паклёпнічалі на Беларускі Народны Фронт і скажалі беларускую гісторыю. Людзі ня мелі магчымасьці пачуць альтэрнатыўную думку, многія не разумелі, за што галасуюць, не маглі зрабіць асэнсаванага выбару.

Выканаўчыя структуры і асабіста прэзідэнт уплывалі на галасаваньне. Існуюць шматлікія сьведчаньні сілавых дзеяньняў і націску на назіральнікаў і выбаршчыкаў. Вынікі рэферэндуму ў значнай ступені сфальсіфікаваныя, асабліва ў сельскай мясцовасьці.

Гэты рэферэндум нельга лічыць сапраўдным волевыяўленьнем. Яго вынікаў ніколі не прызнае сьвядомая частка народу. Мы перакананыя, што нашае грамадзтва, пазбавіўшыся савецкіх каланіяльных комплексаў, выправіць ганебнае становішча, у якое загналі Беларусь авантурныя палітыкі. Задача дэмакратычных сілаў - памагчы грамадзтву максімальна наблізіць гэты час.

## ПРА ПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА

У Беларусі, адрозна ад іншых посткамуністычных краінаў, зруху масавай сьвядомасьці "улева" не папярэднічаў перыяд знаходжаньня пры ўладзе дэмакратычных незалежніцкіх сілаў. Не былі закладзеныя асновы рэформаў і аздараўленьня эканомікі, не адбылася дэмакратызацыя грамадзка-палітычнага жыцьця і дэкамунізацыя масавай сьвядомасьці, не распачата стварэньне грамадзянскай супольнасьці, урэшце, незалежнасьць краіны ня сталася незваротным фактам.

Незалежніцкія сілы ня здолелі зьмяніць наменклатурнае кіраўніцтва ў Менстку і на месцах пасьля краху камуністычнага путчу ў 1991 г. Яны пачалі страчваць палітычную ініцыятыву, калі ўлады праігнаравалі паўмільёна подпісаў грамадзянаў краіны за правядзеньне рэферэндуму аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету і новых, дэмакратычных выбарах. Зманапалізаваныя ўладамі асноўныя сродкі масавай інфармацыі замоўчвалі або падавалі ў скажоным выглядзе пазіцыю і акцыі Народнага Фронту. Прапагандай быў створаны вобраз ворага, увасоблены для значнай часткі насельніцтва ў нацыянальна-незалежніцкіх сілах. У такіх умовах Народны Фронт ня здолеў процістаяць прапагандзе, ня змог давесьці да людзей, што ён адстойвае сутнасныя інтарэсы народу і дзяржавы. Палітычную ініцыятыву пераняла левыя антынезалежніцкія сілы, якія выкарыстоўвалі папулісцкую рыторыку і прыйшлі да ўлады на хвалі масавага незадавальненьня наменклатурным рэжымам Кебіча. У выніку менавіта з Беларусі, як краіны з найменшай ступеньню нацыянальнай сьвядомасьці насельніцтва, пачаў паэтапна зьдзяйсьняцца план камуністычнага рэваншу і аднаўленьня імперыі.

Вынікі рэфэрэндуму 14 траўня і апошніх выбараў стварылі рэальную пагрозу незалежнасьці Беларусі. Магчымае панаваньне ў будучым Вярхоўным Савеце кебічаўскай наменклатуры і процістаяньне гэтага воргана прэзідэнцкай адміністрацыі будзе азначаць толькі супэрніцтва дзьвух наменклатурных груповак Кебіча і Лукашэнкі, кожная з якіх разьлічвае на падтрымку пэўных расейскіх палітычных колаў. Дзеля гэтага прыносяцца ў ахвяру палітычныя і эканамічныя інтарэсы Беларусі і нашага народу.

З іншага боку, пасьлядоўна антыдэмакратычная, антырынкавая, антыкультурная, антыдзяржаўная і ўрэшце антынародная палітыка цяперашняга кіраўніцтва краіны прымушае аб'ядноўвацца ў шырокую апазіцыю супраць яго ўсіх тых, хто зьвязвае свае інтарэсы з незалежнаю беларускаю дзяржаваю. Народны Фронт, як носьбіт незалежніцкай ідэі, бачыць сваё месца нароўні з іншымі палітычнымі сіламі ў складзе гэтай шырокай кааліцыі.

# ДЗІРКА У ПЛОЦЕ,

## АЛЬБО МЯЖА НА ЗАМКУ

**Гарадзеншчыну межамі Бог не пакрыўдзіў. Да даўно асвоенай польскай дадалася яшчэ і летувіская. Прыстойны жартаўнік, едучы ў Літву па шашы, здзіўляецца: якія шлагбаўмы, якія жалезабетонныя збудаваньні, якія строі ў памежнікаў! Грошай юная дзяржава не пашкадавала, і вось ён, парадак. Мяжа на замку, як пісалі калісьці.**

Мы зьехалі з шашы і паехалі прасёлкамі, а дзе і ўвогуле пехатой пайшлі. Стаміліся,і, каб адпачыць, зайшлі ў адзін прытульны хутар. Гаспадар завіхаўся побач амбарных шаляў, нетаропка прыслухоўваючыся да гукаў збоку лесу: ага, гудзе! Легкавік, з якога прыехаўшыя хлопцы пачалі згружаць скрынкі поўныя грыбоў-лісічак.

- Пеньсія ня вельмі вялікая, дык я нарыхтоўшчыкам уладкаваўся. Падпрацоўваю... - патлумачыў гаспадар хутара.

Грыбы зважылі. Бадай сто кілаграмаў. І, дзіўная справа, наноў пачалі грузіць у той жа легкавік! Потым штосьці падумалі і далікатна спыталі нас:

- Людзі добрыя, калі не сьпяшаецеся, мо данаможаце адвезьці? Тут недалёка, едзьце за намі...

Мы паехалі. Бездараж, да таго ж у адным месцы поперак дарогі ляжала вялізная сухая сасна. Ніяк не праедзеш. Аднак адзін з нашых спадарожнікаў лёгка адсунуў тоўстае дрэва на абочыну, быццам вароты адкрыў. Зразумела, чужы тут не праедзе, не здагадаецца.

А тут і рэчка. Багністая, ступіш - адразу праваліўся.

- Штосьці Пранаса не відаць? - занепакоіліся хлопцы.

- Будзе. Раз дамовіліся - жалезна,- супакоіў гаспадар хутара.

І сапраўды: на летувіскім беразе, зьявіўся чырвоны "жыгуль". Хлопцы ўзялі па скрыні і сьмела ступілі ў ваду! А ўсё таму, што кладка тут падводная. У багністай вадзе яе зусім не відаць.

- Дакладна ўзважылі? - спытаў Пранас, калі лісічкі апынуліся ў багажніку яго легкавушкі.

- Зьневажаеш... Фірма! - са смакам сказаў заморскае слова гаспадар хутара. Пранас дастаў пачку доляраў, адлічыў чатыры сотні і крышачку дробных.

- Заўтра ў дзевяць!

- Акурат! - разьвіталіся нашы з летусісам.

Схема тут простая. Як і патрабуецца, спажыўсаюз мае сваіх нарыхтоўшчыкаў на месцах, выдае ім шалі, скрыні. Да нарыхтоўчага пункту грыбнікі ідуць чарадой; хоць і мала сёлета грыбкоў, а скрыні ўсё ж напаўняюцца. Аднак наш нарыхтоўшчык і ня думае здаваць грыбы роднаму спажыўсаюзу, ён мае таямнічы пакт з летувіскім калегай, таму што ў Летуве лісічкі даражэй, і чысты прыбытак складае долар з кілаграма. Вось і едуць поўныя скрыні праз празрыстую мяжу, і здаюцца лісічкі оптам летувіскаму нарыхтоўшчыку.

Між іншым, гэтая ж методыка шырока скарыстоўвалася і ў часы Савецкага Саюзу. Рабілася гэта таму, што беларускія і летувіскія цэны заўжды адрозьніваліся, даючы магчымасьць людзям зарабляць на розьніцы. Бывала, што тую самую журавіну адзін другому прадавалі па некалькі разоў!



Бездарожжа... Але ў гэтай машыне тавару на чатыры мільёны: не захочаш, а праедзеш.

Раней цэны былі, проста кажучы, "бросавыя", зборам лясного дабра займаліся выключна мясцовыя прафесіяналы, якія не наносілі вялікай шкоды прыродзе. Возьмем тыя ж лісічкі - каму яны былі патрэбныя раней? Мясцовыя гурманы іх зьневажальна называлі, не ў крыўду будзе сказана, "жыдоўскім грыбом шматразавага выкарыстаньня". А зараз за кілаграм лісічак плацяць пяць доляраў!

І кінуўся народ у лес. Сам бачыў: у тых скрынях былі выключна маладзенькія, маленечкія грыбочкі. Вымятаюць чыста, да апошняга.

Гэта і ёсьць самае небясьпечнае. Прырода так распарадзілася, што нейкая частка грыбоў заставалася несабранай, каб сьпелі споры - дробязныя, вокам ня бачны пыл, які павінен асеменяць, гэтак званую грыбніцу. У іншым выпадку грыбніца застаецца бясплоднай. Адкуль жа будуць споры, калі лісічкі зьбіраюць, як толькі яны павылазяць з моху. Болей таго, некаторыя рвуць мох, тым самым губяць грыбніцу.

Таму, калі не было яшчэ доляраў, лісічак пры жаданьні можна было назьбіраць цэлы воз. Сёньня нават дасьведчаныя грыбнікі радуюцца, калі за дзень зьбяруць некалькі кілаграм. Але ж гэта дзесяць доляраў!

Чаму радавацца: нам застаюцца толькі вяршкі, таму што ў Гамбургу, кажуць, за кілаграм лісічак даюць васемнаццаць...

Што тут можна рабіць? Анічога. Таму, наракаць на нашага знаёмага нарыхтоўшчыка проста грэх.

Але таксама грэх назіраць, як за наш кошт, за кошт нашай прыроды ўзбагачаюцца летувісы, ці хто-нубудзь іншы. Прэзідэнт і ўрад скардзяцца, што мы не патрэбны на заходнім рынку... Мы, можа, і не патрэбны, а вось нашы лісічкі вельмі дарэчы там. Дык чаму мы ня здольны прадаць лісічкі самі? Чаму летувісы находзяць збыт, а мы яго ня маем? Ці не таму, што ў нас пры ўладзе людзі, у якіх галава ня варыць і рукі не з таго месца растуць?

Калі хто пакрыўдзіцца, няхай яшчэ раз перачытае напісанае вышэй.

"Нічога, - скажа ўлада, - вось Расея дапаможа нашы межы ахоўваць, і скончыцца гэтае беззаконьне.

Ня скончыцца! Каб перакрыць гэтыя безьмежныя багны, патрэбны велізарныя сродкі, якіх няма і ня будзе. Дзядзя Віця з хутара сьцежку да Пранаса абавязкова знойдзе.

Выйсце магло б знайсьціся само, калі б у нас за лісічкі плацілі столькі, каб не было аніякай выгады такім дзядзям прадаваць іх Пранасу. Але для гэтага неабходна самім прадаваць лісічкі ў Гамбург. Але для гэтага ля ўлады павінны быць людзі, якіх чакаюць на Захадзе. Але для гэтага мы павінны адступіцца ад некаторых прынцыпаў.



Спакон веку тут было балота... А тут раптам кладка зьявілася! І дзеля чаго яна тут, можа, падкажаце мне, а?..

А вось гэтага ня трэба!

Мова гіне, гістарычная памяць у загоне, генетычныя зьмяненьні нацыі адбываюцца, і нічога, а тут нейкая грыбніца. Якая там матэрыя... Прырода... Калі каму жадаецца,дык на Калыме таксама прырода.

Удумлівы чытач спытае: а дзе аўтар, уласна, усё гэта бачыў? Дзе гэта рэчка?

А дзе пажадаеце. Можа ў Гарадзенскім раёне, можа ў Шчуцынскім, можа ў Воранаўскім ... Можа, гэта рэчка Жыжма, можа Котра, можа Дзітва, можа Гаўя...

Гэта - зьява паўсюдная! Гандаль, які разбэшчвае, псуе людзей, моцна шкодзіць прыродзе і нічога не пакідае нашчадкам.

Акрамя задавальненьня ад самаедства.

**Л.ДАЎГЕЛА.**

**Фота аўтара.**



Левы бераг - Летува, правы - Беларусь. Глухамань ды туман. Праходзьце, праносьце, калі ласка.

## ДА СТАБІЛІЗАЦЫІ ДАЛЁКА

"Назіраемыя сімптомы стабілізацыі эканомікі не прынясуць станоўчых зьмяненьняў на рынку працы". Пра гэта паведаміў на парламанцкіх слуханьнях старшыня Федэральнай службы занятасьці (ФСЗ) Фёдар Пракопаў. Па яго словах, узровень беспрацоўя ў Расеі можа скласьці ў бліжэйшы час 6,7 працэнта. Зараз ён складае 2,7 працэнта.

У мэтах зьмяншэньня беспрацоўя ФСЗ разгортвае праграму інфармацыйнага забесьпячэньня беспрацоўных і працадаўцаў аб ваканьсіях на рынку працы.

(Э.-Х.)

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Прэзідэнт Альгірдас Бразаўскас выступіў у Парламанцкай Асамблеі Заходне-Эўрапейскага Саюзу з прамовай "Летува ў архітэктуры эўрапейскай бясьпекі". Адказаў таксама на пытаньні парламантарыяў. Гаворачы пра адносіны з Расеяй, А.Бразаўскас зазначыў, што ізаляцыі Расеі можна было б пазьбегнуць, падпісаўшы сьпецыяльную дамову ў справе бясьпекі паміж дзяржавамі Заходу і Расеяй. Стратэгічнае партнёрства паміж НАТО і Расеяй павінна ўмацавацца - паводле прэзідэнта - дзякуючы гаспадарчаму партнёрству паміж Эўрасаюзам і Расеяй.

***

Падчас сустрэчы прэзідэнта Альгірдаса Бразаўскаса са старшынёй Летувіскай Партыі Жанчын Казімерай Прунскене апошняя выказала меркаваньне сваёй арганізацыі, што службу здароўя ў Летуве трэба прызнаць прыярытэтнай галіной гаспадарчага разьвіцьця краіны, склікаць нацыянальную раду спраў здароўя, а да VI Сусьветнай канферэнцыі жанчын у Пекіне, якая адбудзецца ў верасьні, ратыфікаваць Канвенцыю правоў жанчын і дзяцей.

***

У Вільні адбылася нарада прадстаўнікоў розных арганізацый нацыянальных меншасьцяў. 18,7 прац. жыхароў Летувы - гэта нелетувісы, якія маюць сваю культуру, рэлігію, традыцыі. Найбольш актуальнай праблемай для іх зьяўляецца асьвета, хоць на сёньняшні дзень дзейнічаюць рускія, польскія, беларускія, жыдоўскія і нямецкія школы. Свае школы хочуць стварыць украінцы і татары.

Хутка мае выйсьці з друку збор дакумантаў і артыкулаў нацыянальных меншасцяў у Летуве". Гэта будзе першае выданьне з нарматыўнымі актамі Летувы, актуальнымі для грамадзян іншых нацыянальнасьцяў.

***

На паседжаньні ўраду абмеркавана дзейнасьць гаспадарчай паліцыі. Выкрыта за апошні час звыш 1540 розных злачынстваў, а шкоды раўняюцца на 80 млн.літаў. Выкрыта амаль 50 выпадкаў хабару, шматлікія бязпраўныя фінансавыя аперацыі, гандаль фальшывымі прадуктамі харчаваньня. Скантралявана праца мытных складоў. Дадзена ўказаньне праводзіць у такіх складах улік тавараў. Кіраўнік мытнага склада (уладальнік) павінен узгадніць парадак уліку з мытная службай.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

## УКРАІНА

### КІЕЎ

У Крымінальны кодэкс Украіны на пленарным паседжаньні Вярхоўнай Рады Украіны ўведзены чатыры артыкулы, якія прадугледжваюць сьмяротную кару. У прыватнасьці, яна будзе прымяняцца за злоўжываньне службовай асобай уладай ці службовым становішчам, за перавышэньне ўлады ці службовых паўнамоцтваў, за бязьдзейнасьць вышэйшай службовай ваеннай асобы.

***

"Вывядзеньне 14-й расейскай арміі з тэрыторыі Прыднястроўя праз тэрыторыю Украіны магчыма толькі пасьля падпісаньня адпаведнага пагадненьня між Украінай і Расеяй", - заявілі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў Украіны на брыфінгу для журналістаў, які адбыўся 11 ліпеня. Па іх словах, праект падобнага пагадненьня распрацаваны Украінай, і цяпер разглядаецца расейскім бокам.

(Э.-Х.)





ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# НА ГРУНВАЛЬДЗКІМ ПОЛІ

**Заўтра дзень 585 угодкаў вялікай перамогі славянства над тэўтонамі пад Грунвальдам. Разам са славянамі там стаялі татары, жмудзіны. Разам з тэўтонамі - ўся Эўропа. Перамаглі мы. Сярод пераможцаў была і Лідзская харугва.**

**Людзей, якія памяталі ўсе дэталі пасьля бітвы засталося мала. Магчыма толькі Вялікі князь Вітаўт і ведаў дзеля чаго і чаму ён ставіў войскі менавіта там, а не ў іншым месцы. Сярод застаўшыхся ў жывых не аказалася вялікіх летапісцаў, прынамсі, сярод вояў Вялікага Княства. Напэўна таму, хто ў мірным жыцьці трымаў часьцей пяро, чым меч цяжка было выйсьці жывым з попелу Грунвальда. А магчыма пад Грунвальдам былі ўжо беларусы з сёньняшнім менталітэтам, якія мала дбалі пра нашчадкаў, а таму не імкнуліся нешта запісваць.**



20 красавіка 1410 году Вялікі князь Вітаўт правёў апошнюю ўсеагульную нараду перад пачаткам вялікай вайны.

Ні князь, ні намесьнік Лідзкі ў сьпісе гэтай нарады ня значацца. Чаму? Ліда ад моманту заснаваньня ў 1323 годзе князем Гедымінам была княжым горадам. Вялікі князь перыядычна даваў яе "на кармленьне" таму ці іншаму намесьніку або, нават татарскаму хану. Так, з 1396 па 1399 кіраваў Лідай хан Тахтамыш, выгнаны з Залатой Арды і прыняты Вялікім князем Вітаўтам.

Безумоўна, што ў 1410 годзе Ліда мела княжага намесьніка, але хто ім быў? Калі б гэта быў нехта са значных князёў, то ён быў бы названы. Калі імя не названа, то тут можа быць некалькі варыянтаў. Лідай мог валодаць нехта па сумяшчальніцтву, скажам той жа намесьнік віленскі Войцах Манівід. Мог часова кіраваць нехта з вялікакняскіх старэйшых дружыньнікаў, мог быць і ўласны намесьнік, але ў Берасьце па нейкай прычыне не выклікацца. Не было ж у Берасьці нікога ні з Наваградка, ні з Менска, ні з Ваўкавыска, але Законы Пагоні яны ведалі ўсе. Таму пад Грунвальд прыйшлі і харугвы з тых гарадоў, чые князі не былі ў Берасьці, ў тым ліку і з Ліды.

Хто прывёў Лідзкую харугву пад Грунвальд, якой яна была па колькасьці, - таксама сказаць дакладна немагчыма. Немагчыма нават назваць сьцяг, пад якім яна стаяла. Хутчэй за ўсё гэта была Пагоня, але з 40 харугваў ВКЛ 19 былі пад сьцягамі з "калёнамі Гедыміна". Гэты старажытны трызубец Рурыкавічаў, які ператварыўся ў кляймо для коней, мог быць на сьцягу Ліды, горада, які заснаваў Гедымін, бо традыцыйнае меркаваньне, што пад "калёнамі" ішлі толькі жмудзкія харугвы, выклікае сумненьне, таму што немагчыма налічыць 10 жмудзкіх харугваў у войску ВКЛ.

А зараз пра месца Лідзкай харугвы на Грунвальдзкім полі. Войскі Вялікага княства стаялі на правым крыле саюзнага войска. Яны былі сшыхтаваны ў гуфы прыблізна роўныя колькасьці дзідаў. Дзіда, трэба згадаць, гэта ня воін з дзідай, а баявая адзінка, якая складалася з драба (рыцара), зброяносца (парабка), аднаго ці некалькіх лучнікаў, якія ўсе былі добра ўзброены.

Гісторыкі даюць прыкладнае разьмяшчэньне войскаў ВКЛ. Войскі ВКЛ стаялі ў 3 лініі. Разам з тым само войска, дакладней, лінейная яго частка, цяжкія драбскія харугвы былі падзелены на 3 часткі па фронту, камандзіры якіх былі прызначаны яшчэ ў Берасьці. Левым крылом камандаваў Сямён Альгердавіч Мсьціслаўскі. Ён вывеў і паставіў у стык з палякамі Смаленскі, Мсьціслаўскі, Полацкі, Віцебскі, Слуцкі, Аршанскі, Лідзкі і Вяліканаўгародзкі гуфы. Такім чынам першапачатковае месца Лідзкай харугвы прыблізна вядома. Хутчэй за ўсё князь Сямён шыхтаваў свае гуфы ў дзьве лініі. У першай лініі маглі аказацца Смаленскі, Мсьціслаўскі і Аршанскі гуфы, а таксама Менскі і Заслаўскі, Полацкі. Побач стаялі ваўкавысцы, якія хутчэй за ўсё былі таксама пад камандай князя Сямёна. Правей стаяў цэнтр Івана Жадзевіда з валынцаў, падольцаў, ратненцаў, уладзімірцаў, берасьцейцаў і пінян. Трэцюю лінію шыхтаваў Пётр Гаштольд з кіяўлян, наваградцаў, малдаван, наўгарад-северцаў, ровенцаў, стародубцаў.

У першай лініі стаяла 14 харугваў, у другой 13, ў трэцяй 13.

Правае крыло ўзначальваў Войцах Манівід з віленскімі, гродзенскай, ашмянскай, трокскімі, крэўскай, вількамірскай, мядліцкай харугвамі і лёгкай жмудзскай конніцай. Яшчэ правей стаялі татары хана Багардзіна.

У засадзе заставаліся тры тысячы татар хана Джэлаладзіна.

Прыблізна разабраўшыся з асноўнымі часткамі войска ВКЛ перад боем, мы можам вызначыць корпус Сямёна Мсьціслаўскага, які займаў першую і другую лінію левага флангу; корпус Івана Жадзевіда - першая і другая лінія цэнтру, корпус Войцаха Манівіда - першая і другая лініі правага флангу; корпус Пятра Гаштольда - трэцяя лінія і орды ханаў Багардзіна і Джэлаладзіна.

У якім месцы корпуса Сямёна Заслаўскага знаходзілася Лідзкая харугва?

Толькі на пачатак бітвы захоўваўся шыхт харугваў у тры лініі. Увайшоўшы ў судакрананьне з супраціўнікам харугвы, імкнуліся захаваць шыхт, але вялікія страты першай лініі змусілі каманьдзіраў кідаць у прамежкі паміж харугвамі, а то і на месца высечаных харугваў гуфы другой і трэцяй лініі. Верагодна, што ў першыя гадзіны сечы Лідзкая харугва ў бой не ўступала. На гэты час асноўны цяжар лёг на цэнтр і правае крыло войскаў ВКЛ.

Татары не маглі доўга трываць стальную лавіну тэўтонаў і адкрытай сечы. Ім патрэбен быў манёўр. Багардзін даў каманду выйсьці з бою і перашыхтавацца, што імкліва і была здзейснена, але гэты манёўр адкрыў правы фланг Манівіда, і крыжакі, адкінуўшы жмудзкіх вершнікаў, навалiліся на яго беручы ў абцугі. Вітаўт кінуў у бой харугвы трэцяй лініі: ковенскую, старадубенскую, наўгарод-северскую і лідзкую.

З корпуса Сямёна Мсьціслаўскага Лідзкая харугва была адзінай перакінутай з левага фланга на правы. Гэта магло быць толькі ў тым выпадку, калі яна не была ўцягнута ў бой, г.зн. яна не магла быць у першай лініі, і калі справа ад яе не было іншых харугваў. Адсутнасьць харугваў справа азначае, што ці то Лідзкая харугва была самая правая, ці ў другой лініі князя Сямёна, ці то іншыя харугвы ўжо пасьпелі ўступіць у бой. Па ходу бітвы ўзгадваецца толькі адна харугва корпуса Сямёна Мсьціслаўскага, кінутая на дапамогу цэнтру, які пасьля першай жа атакі мусіў узначаліць Пётр Гаштольд, замяніўшы Івана Жадзевіда, трапіўшага ў "воўчую яму". Гэта Полацкая харугва, таксама з другой лініі. Таму з некаторай ступенню імавернасьці можна сьцьвярджаць, што лідзкая харугва была другой справа ў другой лініі корпуса Сямёна Мсьціслаўскага. Дзьве гадзіны мужнасьць першай лініі берагла лідзян, але зараз з другой лініі яны маглі аказацца толькі на левым крыле кінутых супраць акрыленых посьпехам тэўтонаў чатырох харугваў ВКЛ, а гэта значыць трымаць лабавы і флангавы націск тэўтонаў. Болей лідзкая харугва не ўпамінаецца. Верагодней усяго, што ўпамінаць не было пра каго. Але напэўна нехта ацалеў. Драбскі рыштунак быў моцны. Шмат вояў падала на поле проста ашаломленымі, рэшткі харугвы маглі адсутнічаць і зьмяшацца са смаленскімі ці менскімі воямі. Тэўтонскія кліны, якія атакавалі гэтыя чатыры харугвы, мелі задачу зламаць рэшткі, як ім падавалася, супраціву войскаў ВКЛ і выйсьці ў тыл палякам. Але гэтыя рэшткі толькі падаваліся рэшткамі. Адступіўшыя, пашматаныя харугвы ВКЛ перашыхтаваліся і мёртва сталі на лініі свайго табару. Татарскія і жмудзкія вершнікі перашыхтаваліся і падрыхтаваліся да новага ўдару на правым флангу, дзе больш не было жалезных клінаў немцаў, а стала мноства групак рабаўнікоў-"перапаможцаў". Тым часам левы фланг мёртва стаяў. Ляглі гэтыя чатыры харугвы, прыйшла чарга наступных. Не адыйшоўшы не на крок да апошняга драба секліся менская й заслаўскія харугвы і леглі цалкам. З корпуса Сямёна Мсьціслаўскага засталіся толькі Смаленская, Мсьціслаўская і Аршанская харугвы, якія таксама, разьвярнуўшы фронт, перакрылі ўсякую мажлівасьць тэўтонам абыйсьці палякаў. Крайняя аршанская харугва зьлегла таксама, але апошнія дзьве выстаялі да канца.



І канец наступіў. Харугвы ВКЛ, пра якіх ўсе гісторыкі замежжа піішуць, як пра гэнебна ўцёкшых з поля бітвы, моцна парадзелыя, але перашыхтаваныя зноў аказаліся на полі. І своечасова. Польскі фланг пад ударамі тэўтонаў крок за крокам саступаў поле. Падаў і падымаўся каралеўскі штандар Ягайлы. У бой былі ўведзены ўсе рэзервы. Момант быў крытычны. І вялікі магістар Ульрык фон Юнгінген вырашыў, што прыйшоў яго час. Хто сустрэў 16 сьвежых, ня быўшых яшчэ ў баі харугваў тэўтонаў, лепшых харугваў? Хто ўзяў іх у кола і высек як капусту, хто ў другое кола ўзяў Конрада фон Валенрода, які кіраваў флангам, нацэленым на войскі ВКЛ? Адкуль узялася тая сіла? Гэтага не зразумелі на полі боя ні Валенрод, ні магістар, гэтага да гэтага часу ня хочуць разумець ні польскія, ні расейскія, ні нямецкія гісторыкі. Праўда, у некаторых крыніцах гаворыцца, што вялікі магістр быў сьцяты рукой хана Багардзіна, што яшчэ раз пацьвярджае той факт, што менавіта войскі ВКЛ грамілі рэзервы вялікага магістра. І давайце хоць крышку ўспомнім арыфметыку і прыкінем колькі паўнавартасных харугваў павінен быў мець Вітаўт, каб акружыць і высекчы 16 ня быўшых у баі харугваў тэўтонаў. Ведаючы, якія харугвы стаялі на левым флангу, якія палеглі практычна цалкам, няхай самы антыбеларускі дасьледчык паспрабуе назваць тыя харугвы, якія ўцяклі. Марная справа, панове.

Варта спыніцца на значэньні Грунвальдзкай перамогі.

Усім вядома, што пасьля яе 500 гадоў збройны немец не ступіў на нашую зямлю. Магутнасьць Тэўтонскага ордэна была падарвана назаўжды, але кошт, які заплаціла за гэта Беларусь, быў страшны. На пагорках Грунвальда засталася абсалютная большасьць старых беларускіх, чарнарускіх і ліцьвінскіх мобіляў. Вотчыны засталіся без гаспадароў, намесьніцтвы без намесьнікаў. І пачаўся працэс пасаджэньня на іх каталіцкай шляхты. Я не жадаю аналізаваць тут ролю каталіцтва і каталікаў у гісторыі Беларусі, але лічу, што менавіта Грунвальдзкі меч расьсек будучы беларускі народ на дзьве часткі, а колькі бяды спазналі мы з-за гэтага, ведаюць толькі беларусы. На кожным чарговым этапе адраджэньня мы імкнуліся гэты падзел пераадолець, і кожны раз нашы мацнейшыя суседзі Польшча і Расея пад выглядам абароны каталіцтва і праваслаўя рабілі ўсё, каб гэты падзел захаваць.

Таму, кажучы сёньня пра вынікі Грунвальдзкай бітвы, беларус можа толькі ўздыхнуць і прамовіць: "Цяжкі, цяжкі ты ўдар Грунвальдзкага мяча".

**Станіслаў СУДНІК.**

**НА МАЛЮНКАХ: Вітаўт, зьлева; Ягайла, зправа.**





## СПОРТ

### ЗБОРНАЯ ІЗРАІЛЯ ВЫБРАЛА ГОРАДНЮ

**Чарговы раз месцам падрыхтоўкі да спаборніцтваў зборная Ізраіля па класічнай барацьбе абрала Горадню.**

**Галоўны трэнер гэтай каманды сп.Якаў Мазін пракаментаваў гэты факт так:**

- Я нарадзіўся і вырас у Бабруйску. З даўніх часоў мяне зьвязваюць сяброўскія адносіны з гарадзенскім трэнерам, на маю думку, адным з лепшых у сьвеце, сп. Максімовічам. Дзякуючы яму, Горадня - вядомы цэнтр барацьбы, дзе выхаваны шмат знакамітых волатаў і мы, ня маючы на радзіме дастойных спарынг-партнёраў, з задавальненьнем прыязджаем сюды. Сёлета - для падрыхтоўкі каманды да чэмпіяната сьвету. А ў хуткім часе гарадзенскія барцы прыедуць да нас.

**- На што разьлічвае зборная Ізраіля на чэмпіянаце сьвету?**

- На працягу апошніх трох гадоў барцы з Ізраіля заваявалі тры медалі на чэмпіянатах Эўропы і таму спадзяемся, што нашы вядучыя спартсмэны: Гоча Ціціашвілі, Нік Заграцічны, Аляксандр Давідовіч, Барыс Вінакураў змогуць паспрачацца за медалі.

**- Ці шмат на Зямлі Абяцанай барцоў - выхадцаў з Беларусі?**

- Вельмі мала ...

**Так, нягледзячы на тое, што матэрыяльна-тэхнічная база падрыхтоўкі барцоў у Горадні трымаецца ледзь не на голым аўтарытэце і энтузіязьме мясцовых трэнераў, нашыя барцы пакуль што адстойваюць гонар сваёй дзяржавы.**

**Вітаўт РУДНІК**



**НА ЗДЫМКУ: кіраўнік дэлегацыі Элі Шыразі і лепшы атлет Ізраіля Гоча Ціціашвілі.**

**ФАТАГРАФАВАЎ Яраслаў ВАНЮКЕВІЧ.**

### СЁНЬНЯ ВЫРАШАЕЦЦА ЛЁС ХАКЕЯ

**Непрыемны сюрпрыз чакаў хакеістаў і трэнераў хакейнага "Нёмана" пасьля вяртаньня з летняга адпачынку. На рахунак каманды не былі пералічаны грошы на харчаваньне, пражываньне хакеістаў і г.д. І гэта ў той час, калі каманда вымушаная рыхтавацца да новага турніру - першынства Усходне-Эўрапейскай лігі.**

"Нёман", які пасьпяхова дагэтуль гуляў у адкрытым першынстве Расеі і ў гэтым турніры ў атачэньні супернікаў з Украіны, Беларусі і Прыбалтыкі, напэўна, быў бы сярод лідараў. Але пaўнавартасная падрыхтоўка да спаборніцтва пад пагрозай. Кіраўніцтва клубу напісала ў аблспарткамітэт службовую запіску, у якой адмаўляецца працаваць бяз грошай. Сёньня новы шэф спарткамітэту павінен наведаць сп.Дубко для вырашэньня гэтай крытычнай сітуацыі, наступствы якой могуць быць жахлівымі, бо ўжо пакінулі "Нёман" брамнік зборнай Беларусі Емельянаў, абаронца Неўструеў, могуць адыйсьці Пстыга і Нічыпухін. Без належнага забесьпячэньня не застануцца ў клубе запрошаны зноў вопытныя Савінаў, Пуціленка і навабранцы з Уфы Нікалаеў, Кузняцоў і Амінаў, а таксама, яшчэ цэлы шэраг маладых хакеістаў з менскага "Юнацтва". Спадзявацца ж толькі на выхаванцаў сваёй школы яшчэ рана, нягледзячы на тое, што да гэтага сезону з камандай рыхтуюцца і 11 гарадзенскіх юнакоў.

Сітуацыя выглядае досыць дзіўна ў тым плане, што сёлета на ўтрыманьне хакеістаў патрабуецца значна менш сродкаў, бо няма патрэбы дабірацца ў Аленегорск ці Ухту.

І таму ёсьць надзея, што паміж старшынямі будзе знойдзена паразуменьне, і сёлетняй зімой гарадзенцы на відавоку змогуць параўнаць майстэрства сваіх любімцаў з прадстаўнікамі іншых школ хакею.

**В.МАЛЬСКІ**



**ДВОРЫК МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА.**

**Фатаграфаваў Яраслаў ВАНЮКЕВІЧ.**

### НА АЛІМПІАДЗЕ МОЖНА, У НЯМЕЧЧЫНЕ НЕЛЬГА.

**Стала вядома, што лепшы цяжкаатлет сьвету Александр Курловіч зможа выступіць на Алімпійскіх гульнях 1996 года.**

Менавіта так вырашыла аўтарытэтная камісія, якая разглядала гісторыю са станоўчай пробай на допінг, выяўленай пасьля аднаго з выступаў на памосьце спартсмэна ў Нямеччыне, дзе наш асілак выступае за адзін з мясцовых клубаў. Згодна з гэтым рашэньнем, дыскваліфікацыя атлета распаўсюджваецца толькі на спаборніцтвы ў Нямеччыне.

Па ўзгадненьні камісіі з Беларускай федэрацыяй цяжкай атлетыкі з красавіка 1996 года наш зямляк можа браць удзел у любых спаборніцтвах на міжнароднай арэне, у тым ліку на Алімпіядзе і ў чэмпіянаце Эўропы.

**Р.В.**

### БЫВАЙ ЛІГА МАЦНЕЙШЫХ?

**Распачаўся пяты нацыянальны чэмпіянат па футболе.**

Удала стартаваў у ім лідзкі "Абутнік", адолеўшы ў Салігорску мясцовы "Шахцёр" (3:1). А вось гарадзенскі "Нёман" "вызначыўся" антырэкордам - у Мазыры ён саступіў з лікам 0:7 клубу са страшнай назвай МВКЦ. Напярэдадні нёманцы ў кантрольнай гульні "ляглі" пад "Абутнік" - 2:7. Ці то поўная нядужасьць, ці то "плаваць" трэнера? Нагадаем, што чарговае першынство пройдзе ў адно кола, элітарную лігу пакіне слабейшая каманда, а перадапошняй наканавана правесьці пераходныя матчы. Зрэшты, шэраг клубаў ("Шахцёр", менскае "Тарпеда", "Бабруйск") могуць заўчасна спыніць сваё існаваньне з-за фінансавага краху.

**У.Х.**



### КІНАТЭАТРЫ ПРАПАНУЮЦЬ:

*"ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА"*

15-17.07. "Бэтмэн назаўсёды" ф.(ЗША) - 12.00,16.20 "Маскоўскія канікулы" ф.(Расея) - 14.20,18.40,20.50 "Эрнст, які закідвае зверху" ф.(ЗША) - 11.20,13.20,15.20 "Час любоўных гульняў" ф.(ЗША) - 17.20,19.10,21.00

*"КАСТРЫЧНІК"*

15-17.07 "Вызваліце Віллі" ф.(ЗША) - 15.30, 17.30, 19.30, 21.30 "Адшукваецца герой" ф. - 12.00, 13.50, 15.40, 17.20, 19.20, 21.20. "Гарачыя галовы-2" ф. 10.00, 11.50, 13.40, 15.30. "Звер" ф. - 17.40, 19.40 21.20,

ВІДЭА

15-17.07 "Рокі-5" ф. - 15.00 "Сакрэтны агент-ОО" ф. - 16.40 "Тупы і яшчэ тупейшы" ф. - 18.30, 20.30

КІНО ДЗЕЦЯМ

16.07 "Ну, пачакай!" вып.1-8 - 12.00 "Аладзін-7" ф. 13.00

НАЧНЫ КЛУБ "САВА" 15-16.07 - дыскатэка - 21.30

*"КОСМАС"*

15-16.07 "Ас з асаў" ф. - 13.40, 15.30, 17.20, 19.10,21.00 "Страшыдла" ф. - 10.00

*"ІМЯ ПУШКІНА"*

15.07 -"Армія цемры" ф. - 10.00, 16.40 "Бэтмэн-2" ф. - 11.40 "Сляпы закон" ф.,2с. - 14.00, 18.20. - дыскатэка - 21.00

16.07 - "Армія цемры" ф. - 10.00, 16.40 "Бэтмэн-2" ф. - 18.20 "Сляпы закон" ф.,2с.- 14.00 - дыскатэка - 21.00

17.07 "Армія цемры" ф. - 10.00, 16.40 "Бэтмэн-2" ф. - 11.40, 21.00 "Сляпы закон" ф.,2с - 14.00, 18.20

*"ГРОДНА"*

14-16.07 - "Салодкая парачка" ф. 15.00, 17.00, 19.00, 21.00 17-23.07 - "Адзін у доме-2" ф. 15.00, 17.00, 19.00, 21.00

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ЗАБОЙСТВЫ

Магчыма, ліпеньская сьпякота выклікала ўсплёск дрымотна-агрэсіўнай энергіі ў далёка ня лепшай часткі нашых суграмадзян.

Калі, напрыклад, забойствы за першыя шэсьць месяцаў учыняліся ў сярэднім кожныя тры дні, то за першую дэкаду ліпеня зьдзейсьнена ўжо сем гэтых крывавых злачынстваў. Калі тэндэнцыя захаваецца, то крымінальная статыстыка ў радку "забойствы" рызыкуе прыкметна павялічыцца. Праўда, гэта не азначае, што Гарадзеншчына ўсё больш нагадвае "белакаменную" з яе ўжо звыклымі аўтаматнымі "міжсабойчыкамі" ці Сіцылію падчас разгулу мафіі. Пераважная частка забойстваў носіць трывалы кухонна-фехтавальны характар. Як гэта здарылася ў вёсцы Вірышча Карэліцкага раёну, дзе 43-гадовая жанчына сярод ночы разьбіла шыбу, пракралася з нажом ў дом да састарэлай цёткі і нанесла ахвяры некалькі сьмяротных удараў у шыю і галаву. Пляменьніца затрымана.

* * *

Трагедыяй скончылася непаразуменьне паміж двума 17-гадовымі падлеткамі з Баранавіч, якія "культурна адпачывалі" на беразе Нёмана ў Навградзкім раёне. Разагрэты ня толькі сьпякотай, хлопец схапіўся за кухонны нож... Адзіны ўдар у жывот сябра стаў сьмяротным.

* * *

У Лідзкім раёне ўзбуджана крымінальная справа па факту нанясеньня цяжкіх цялесных пашкоджаньняў, якія выклікалі сьмерць. Там, у вёсцы Едкі, румянашчокі дзяцюк нервова "адмахнуўся" ад двухгадовага дзіцяці. У выніку суседзкі хлапчук з разрывам кішэчніка і пабоямі розных частак цела праз суткі памёр у шпіталі.

### СЕЗОННЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

Аб тым, што канікулы - вясёлая пара, ведаюць усе. Але, калі раней падлеткі весяліліся пераважна ў лагерах ды на вёсках, то зараз, усё часьцей на вялікай дарозе.

У Шчучынскім раёне 17-гадовы абібок абчысьціў дом аднавяскоўкі, дзе яго часовай здабычай сталі 213 долараў, гадзіньнік і залаты пярсьцёнак.

* * *

У Слонімскім раёне трое вясковых падлеткаў у літаральным сэнсе выйшлі на вялікую дарогу.

Каля роднай вёскі Хадзявічы яны ноччу "праверылі" зьмесьціва МАЗа, які прытуліўся на шашы і належаў прыватным прадпрымальнікам. На жаль (для злачынцаў), там знаходзіліся не прывабныя "Шарпы", а тры мяхі мукі, 50 долараў і 295 тысяч "зайцоў". Таксама - няблага. Толькі гэткія жарты могуць дорага абыйсьціся падлеткам і іх бацькам.

* * *

У "лепшых" традыцыях "гоп-стопа" абрабавалі ў Горадні 35-гадовага вадзіцеля двое непаўналетных з прыгарадных Малахавіч.

Апоўначы яны звалілі мужчыну з ног і забралі ў яго сумку з грашыма і дробнымі рэчамі.

### КРЫМІНАЛЬНЫЯ ТАЛЕНТЫ

Вядома, што шырокі попыт прыкметна стымулюе прапанову. Відаць гэтая акалічнасьць паўплывала на занятак шліфавальшчыка Гарадзенскага завода металавырабаў. Сваё прафесійнае ўменьне працаваць з металам ён у вольны час скіраваў на выраб рэвальвераў, прыстасаваных для стральбы дробнакалібернымі патронамі.

З дзьвюма адзінкамі ўласнавырабленай "прадукцыі" ён і быў засьпеты ў падвале ўласнага дома. Зараз "майстар" бавіць час у казённым доме.

### КРЫМІНАЛЬНАЯ СЕРЫЯ

Белагруда, Драздова, Горкі, Лясьнікі... Гэта далёка няпоўны сьпіс аб'ектаў спажывецкай кааперацыі на Лідчыне, якія сталі ахвярамі двух злачынцаў з Ліды. З пачатку года дуэт ад пуза пашчыраваў у вясковых крамах. У некаторых нават двойчы (Драздова). Але ў адзін прыгожы ліпеньскі дзень на руках абодвух зламысьнікаў пстрыкнулі стальныя "бранзалеты".

### КАНФУЗ

Амаль анекдатычны выпадак здарыўся на рэчцы ля вёскі Малявічы Смаргонскага раёну.

Трое мясцовых дзяцюкоў спрабавалі налавіць рыбкі на юшку. А з прычыны адсутнасьці дынаміту свае сквапныя позіркі скіравалі на электрычную лінію, якая праходзіла побач. Дзеля гэтага і прыхапілі з сабою кабель - каб прайсьціся "электратралам" па вадзе. Збадыча, аднак, аказалася амаль не пад сілу тром мужыкам, бо замест рыбы ў браканьерскія "сеткі" трапіў ... конь(!), які пасьвіўся на беразе. Не пашчасьціла ў той дзень Сіўку: слабаізаляваны кабель на шляху да вады змыкнуўся з ланцугом, да якога быў прыкуты конь. У выніку - супраць аматараў юшкі ўзбуджана крымінальная справа.

### СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

У першай дэкадзе ліпеня шэсьць чалавек добраахвотна разьвіталіся з жыцьцём, восем патанулі на рэках і вадаёмах вобласьці. Яшчэ тры сталі ахвярамі няшчасных выпадкаў пры іншых абставінах.

**У.ДАНІЛОВІЧ**



**"ПАГОНЯ"**

**Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.**

**Заснавальнік:** культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".

Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.

Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by

Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.

Пры перадруку спасылка абавязкова.

Індэкс 63124.

Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.

Заказ 3129

Наклад 8936 паасобнікаў.

Нумар падпісаны да друку 13.07.95, у 16.00